Год II. Ліпень-Жнівень. № 8-9 (18-19)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 8—9.




# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, Ліпень-Жнівень 1930 г. | № 8—9 |
|---|---|---|

## Незацьверджэньне Статуту Т-ва Беларускае Моладзі „Будучыня“.

12 ліпня 1930 г., пастановай № V 514/30, польскія ўлады ў асобе Віленскага Ваяводы паўторна адмовіліся зацьвердзіць Статут Т-ва Беларускай Моладзі «Будучыня».

Ініцыятыўна-арганізацыйная група, карыстаючыся з права адклікацьня да вышэйшае ўлады, 2 жніўня 1930 г. падала заяву яшчэ да Міністэрства Унутраных Спраў, просячы зацьвердзіць Статут.

*
* *

Т-ва «Будучыня» мела мець характар чыста культурна-грамадзка-выхаваўчы і мэтай яго было паводле § 2 Статуту наступнае: а) самаадукацыя ў кірунку: народным, грамадзкім, культурным і прафэсыянальным; б) пашыраньне асьветы і навукі сярод малодшага пакаленьня; в) буджэньне зразуменьня да справы культуры і народнае творчасьці; г) заняцьця і пашыраньне спорту і фізычнага выхаваньня ва ўсялякай форме; д) арганізаваньне самапомачы і таварыскага жыцьця. Т-ва «Будучыня» мела апірацца на ідэі хрысьціянскай, бо той сябра, які паступіў-бы нязгодна з хрысьціянскай этыкай, мог быць выключаны з Т-ва (§ 13 Статуту).

Гэтакую мэту мела Т-ва «Будучыня» і такой ідэі трымалася.

*
* *

Першая адмова Ваяводзтва зацьвердзіць Статут Т-ва «Будучыня» апіраецца на 6 арт. Распараджэньня Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель. Справа

ў тым, што паводле гэнага распараджэньня да Т ва ня могуць належаць непоўналетнія, г. зн. тая моладзь, якая ня мае 21 году; а так-жа вучні ніжэйшых і сярэдніх школ, што было спрэчна з § § 10 і 11 Статуту Т-ва „Будучыні“, паводле якіх сябрамі з правам голасу, выбару і выбіральнасьці магла быць моладзь ад 16 гадоў, а бяз вышэй успомненых правоў ад 14 гадоў.

Вось-жа мы да гэтага распараджэньня застасаваліся. І ўсё было-б добра, каб яно толькі абавязывала ўсіх. Але не, яно чамусьці абавязвае толькі *Таварыства Беларускае Моладзі...*

Бо напрыклад да такога „**Koła Młodzieży Wiejskiej**“ можа належаць моладзь ад 16 гадоў, а нават і малодшая, як захоча гэтага ўрад кола, паводле § 6 Статуту, з тым, што ў ўрад іхнага кола могуць быць выбіраныя толькі поўналетнія (Увага § 21). Статут „**Koła Młodzieży Wiejskiej**“ зацьверджаны пастановай „**Delegata Rządu w Wilnie dn. 16 lipca 1923 r.**“ і ўпісаны да „**Rejestru Stowarzyszeń: Rejestr L. N. 19.**“

Да „**Stowarzyszenia Młodzieży Polskiej**“, якім апякуецца віленскі арцыбіскуп Ялбжыкоўскі, паводле „**Regulaminu Stowarzyszenia Młodzieży Polskiej**“, (**Poznań 1929 r. Nakładem Zjednoczenia Młodzieży Polskiej**“), можа належаць моладзь і ад 14 гадоў і мець усякія правы (арт. 10 Рэгуляміну), з тым, што да ўраду „Ставажышэня“ можа быць выбраны той сябра, які скончыў 17 гадоў (арт. 17 Рэгуляміну).

На гэты апошні факт, у сваім часе, была зьвернена ўвага пану Начальніку Бяспечнасьці Віленскага Ваяводзтва праз закладчыкаў Т-ва „Будучыні“.

Цяпер яшчэ раз падаём да ведама Пана Начальніка, што да гэтых арганізацыяў фактычна належыць моладзь малалетняя.

Вось што нам гавора „**IV Sprawozdanie Związku Młodzieży Polskiej w Wilnie za rok 1929**“: з табліч ных справаздачаў на страніцах 17, 18, 19 і 20 паказана чорна на белым, што да „**Stowarzyszeń Młodzieży Polskiej**“, мужскіх і жаночых на Віленскі, Лідзкі і Беластоцкі вокруг належыць 154 асоб школь-

нае моладзі; 1219 асоб моладзі, лічачай ад 14—18 гадоў і 3172 асобы моладзі, маючай ад 18—22 гадоў.

Чаму гэта так? Дзе-ж аднолькавае права і справядлівасьць? Чаму адным можна, а другім не?

Другая адмова зацьверджэньня Статуту Т-ва „Будучыня“, паданага другі раз ужо з застасаванымі 10 і 11 параграфамі да 6 арт. Распараджэньня Гэнеральнага Камісара Усходніх Зямель, аснована на 18 арт. таго-ж распараджэньня, ў якім гаворыцца, што начальнік вокругу (ваявода — рэд.) можа зацьвердзіць статут, або не. Тут ужо ўсё ясна.

Дык вось вам і роўнасьць, дэмакрацыя, справядлівасьць!

Праўда, „**Dziennik Wileński**“ — знайшоў ужо прычыну незацьверджэньня, бо піша, што зроблена гэта дзеля таго, што ў некаторых беларускіх культурна-прасьветных арганізацыях выкрылася камуністычная работа. Дык калі-б нават і так было, то ці гэта значыць, што і мы маем праводзіць камуністычную работу?

Добра ўсім ведама, што закладчыкі Т-ва „Будучыні“ заўсёды змагаліся з камунізмам, як з згубай кожнага народу, выражаючы погляды у часопісе сваёй „Шлях Моладзі“.

*

*

Гэты факт адмовы зацьвярджэньня Статуту Т-ва Беларускае Моладзі „Будучыня“, якое паўставала саматугам, дзякуючы толькі помачы і апецы старэйшага грамадзянства, стоячага на грунце незалежніцкім, ідэйнай працы і імкненьням беларускае моладзі працаваць на карысьць свайго Беларускага Народу пад сваім нацыянальным бела-чырвона-белым сьцягам, на сваіх уласных сілах, ёсьць яшчэ адным дакумантам несправядлівых адносінаў польскае адміністрацыі да беларусаў.

Беларускай-жа моладзі, бачачы такую крыўду, трэба набраць больш стойкасьці і працу сваю на ніве беларускай падвоіць. Нам многа яшчэ трэба працаваць, многа трэба мець сіл, каб падняць культуру, палеп-

шыць долю нашага Беларускага народу. Ня трэба падаць духам, асабліва ў цяперашні час, калі штораз гусьцейшая сетка розных польскіх колаў, як „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej“, „Koło Młodzieży Wiejskiej“, „Strzelec“ і інш. пакрывае наш край, хочучы спалянізаваць яго. Суляць яны ўсё: пазыкі, паездкі на выстаўкі, штучныя гнаі, паправу гаспадарак, нагароды, паездкі на дажынкі да пана Прэзыдэнта да Спалы і г. д. І часам, для прыманкі, сапраўды зробяць нешта. Але якая-ж гэта ласка? — Гэта наш грош, толькі з панскіх ужо рук, бо-ж ад падаткаў наш селянін аж хіліцца.

Дзеля гэтага беларуская моладзь павінна перадусім старацца ўцякаць ад такіх „колаў“ як найдалей. Калі не даюць нам стварыць свае арганізацыі моладзі, трэба ісьці нам у Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і там працаваць, далей дамагаючыся свайго, а напэўна „загляне сонца і ў наша ваконца“!

Я. Н.

# Дзе Беларускі народ — там Беларусь!

Аб тым, што на зямной кулі існуе, жыве і разьвіваецца Беларускі народ — ніхто ўжо не пярэчыць.

Існаваньне народу Беларускага ад няпамятных часоў сьцьвярджаецца ня толькі аднымі беларусамі, але і навукай агульнай.

Навука сьцьвярджае, што народ Беларускі ад няпамятных часоў існуе, розьнячыся сваею мовай, звычаямі і народнай культурай ад народаў другіх, як суседніх, так і далейшых.

Навука сьцьвярджае, што народ Беларускі належыць да сям'і народаў славянскіх.

Навука цьвердзіць, што Беларускі народ разселены ў вадазборах: Дзьвіны, Дняпра, Прыпяці, Буга і Нёмана.

З гэтых навуковых цьверджаньняў ясна кожнаму, што Беларускі народ мае і сваю натуральную тэрыторыю - сваю беларускую зямлю, якая і называецца натуральным імем Беларусь.

Тымчасам, гэтую натуральную Беларусь многія стараюцца называць імем другім, не натуральным. Адну частку называюць „Усходнімі Крэсамі“ Польшчы, а другую часьць „Савецкай Беларусяй.“

Тая тэрыторыя, якая заселена беларусамі, як-бы яе не разгранічываць, заўсёды пакідае за сабою свой натуральны назоў, а назоў яе — Беларусь.

Дзеля таго аднак, што Беларусь падзелена, мы змушаны гэтыя падзеленыя беларускія землі называць іх фактычнымі сучасными назовамі: Беларусь пад бальшавікамі ці саветамі і Беларусь пад Польшчай, або ўсходняя Беларусь і Беларусь заходняя. Але ніколі „Савецкая“ і „Крэсы“, бо праз гэта паволі губляецца паняцьце нацыянальнае Беларусі.

Гэтыя назовы частак беларускай тэрыторыі: Крэсы і Беларусь Савецкая прыдуманы сучаснай палітыкай. Дык дзеля таго, што яны ня ёсьць натуральнымі, а міжнародныя дагаворы — Вэрсальскі і Рыскі трактаты, і пад Польшчай канстытуцыя, забясьпячаюць беларусам захаваньне сваей нацыянальнай асаблівасьці, беларусы павінны ня толькі самі трымацца натуральнага назову сваей тэрыторыі — Беларусь, але дамагацца і поўнага акрэсьленьня беларускай тэрыторыі назовам — Беларусь.

Беларускі народ хіба што ніколі ня пойдзе па шляху, — каб на Беларусі ня было Беларусі, бо ў праціўным выпадку гэта было-б і нязгодна з правам натуры.

З гэтага вывад, што для беларусаў сучасныя палітычныя назовы беларускай тэрыторыі ня могуць быць іншымі, як толькі натуральны назоў **Беларусь**.

Я. П—к.

---

# Аб палітычных і грамадзкіх кірунках у мінуўшчыне і сучаснасьці.

(Працяг, гл. № 7 „Шляху Моладзі“).

## 1. Монархізм.

Слова „монархізм“ выводзіцца ад грэцкіх слоў монос (адзін) і архэ (улада), значыць, слова „монархізм“, пераложанае на нашу мову, азначала-б тое, што „адзінаўладзьдзе“. Дык монархізм — гэта такі спосаб дзяржаўнага ўстройства, у якім уладу над усімі мае нехта адзін (монос), каторы дзеля гэтага і завецца „монарх“, або панашаму — адзінаўладзец.

Монархізм у працягу гісторыі меў розныя формы. І так— бывалі такія дзяржавы, у каторых монарх меў неагранічаную ўладу, ён быў панам жыцьця і сьмерці сваіх падданых і не прызнаваў над сабою ніякай кантролі. Воля яго была для ўсіх найбольшым правам і ніхто ня сьмеў пярэчыць у ягоных распараджэньнях. Нават калі ён мыляўся — і то трэба было споўніць ягону памылку! Такім неагранічаным монархам быў да апошніх часоў расейскі цар і дзеля таго зваўся „самодзержац“, гэта значыць, ён сам „дзяржаў“ у сваіх руках усю паўнату ўлады.

Цяпер такіх неагранічаных монархаў мала дзе ёсьць, іх улада агранічана канстытуцыяй (дзяржаўным статутам) і парлямэнтам (народным прадстаўніцтвам). Такі нпр. ангельскі кароль ня мае бадай ніякай ўлады і сам ад сябе ня можа нічога пастанаўляць і выдаваць законаў. Ён толькі рэпрэзантуе Англійскую дзяржаву і — падпісвае важнейшыя дзяржаўныя паперы. Усю-ж уладу мае парлямэнт, які праз сваіх міністраў кіруе дзяржаўным жыцьцём.

Арыйскія (індо-эўропэйскія) народы, у пачатках свайго дзяржаўнага жыцьця, бадай усе мелі монархістычную форму ўладаньня. Форма гэта, магчыма, разьвілася з даўнейшай патрыярхальнай улады (патэр — бацька, архэ — улада) і зрабілася насьледнай г. ё. пераходзіла з бацькі на сына якбы ў насьледзтве—і славяне, як галіна вялікага арыйскага племяні, у пачатках свайго гістарычнага жыцьця маюць сваіх старшых (родоначальнікаў), якія ў сваім родзе спраўляюць уладу. Але гэта ўлада моцна агранічана народным зборам, (радаю, вечам), да таго нават, што народны збор можа скінуць аднаго князя, а выбраць другога (што і практыкавалася ў нас на Беларусі ў да-Літоўскі пэрыяд нашай гісторыі). Аб такой форме монархізму можна сказаць, што яна толькі з назовы монархічная, а сама па сабе яна моцна агранічана на карысьць народу. Тут, як гэта кажуць, монарх „пануе, але не ўладае“.

Зусім адменнай формай ўладаньня бывае абсалютная або неагранічаная монархія. Тут да монарха належыць уся паўната ўлады: ён ёсьць жаралом усякага права; ён мае ня толькі правадаўчую але і выканаўчую ўладу; ад яго імя адбываюцца суды і выносяцца прысуды; ён карае і мілуе; ён прадстаўляе ўсю дзяржаву ў міжнародных адносінах. Дык нічога дзіўнага, што згрупаваньне гэтакай неагранічанай улады ў руках аднэй асобы часта выраджалася ў розныя дзікія формы, як нпр. тыранію, дэспотызм і г. п.

Тыран — гэта такі монарх, які дзяржыцца пры помачы тэрору і крывавага гнібеньня сваіх праціўнікаў. Для тырана няма нічога забароненага, ён усё можа, ён на ўсё гатоў, каб толькі ўдзержацца пры ўладзе. Вастрогі, шыбя-

ніцы і сьмерць — гэта штодзеннае зьявішча там, дзе пануе монарх-тыран.

Апроч тыраніі, як зьвіхнутай формы монархізму, ёсьць яшчэ другая падобная форма, а гэтай формай будзе дэспотызм. Дэспот — гэта такі монарх, які не прызнае над сабою ніякага права, нават таго, каторае ён сам выдаў і паступае паводле капрысаў сваей волі. Дык дэспотызм — гэта будзе сваявольле манарха. Паміж тыранам і дэспатам, практычна бяручы, няма ніякай рожніцы.

Да тыраніі і дэспотызму можна далучыць яшчэ і дыктатуру, толькі з тэй рожніцай, што дыктатарам можа быць і не насьледны монарх, а той чалавек, які захапіў у свае рукі ўладу. Такі дыктатар можа быць і побач з монархам (як нпр. Муссоліні ў Італіі), можа быць побач з прэзыдэнтам (нпр. Пілсудзкі ў Польшчы), можа быць і побач з парлямэнтам. Ён дыктатар, бо ён дыктуе сваю волю ўсім і ўсе мусяць яго слухаць. Даўней у Рыме, у труднейшых хвілінах дзяржаўнага жыцьця, нават выбіралі дыктатара на нейкі час (на 6 месяцаў) і давалі яму неаграні̇чаную ўладу, каб ратаваў дзяржаву, але як толькі небясьпека мінула, дыктатар складаў свае дыктатарскія поўнамоцтвы і быў адказным за сваю дзейнасьць перад народным прадстаўніцтвам.

Каб лепш зразумець ідэю монархіі, трэба разважыць ідэю іншай, проціўлежнай формы ўстройства дзяржавы, а гэтай формай будзе рэспубліка. Рэспубліка проціўстаўляецца заўсёды монархіі, як нешта проціўлеглае, адменнае, бо ляжачае на другім полюсе грамадзкага жыцьця. У рэспубліцы няма монарха (адзінаўладніка), але ўлада належыць да ўсіх грамадзян. Затым і завецца такая форма ўладаньня „рэспубліка", што значыць: справа агульная, а не аднэй толькі асобы, („рэс" палацінску рэч, справа; а „публіка" — агульная, публічная, затым і словы „рес" „публіка" бяруцца як проціўпастаўленьне словам „монос" і „архэ"). Дык рэспубліка тым рожніцца ад монархіі, што там ўлада належыць да ўсіх грамадзян, а тут да аднэй асобы (Аб рэспубліцы будзем гаварыць яшчэ нярваз, а тут толькі ўспамінаем аб республіканскім устройстве дзяржавы, каб лепш выясьніць монархічнае ўстройства).

## 2. Арыстократызм.

Апроч монархіі вадзілася даўней (і цяпер часам здараецца) зьбліжаная да монархіі форма дзяржаўнай улады, якая завецца арыстократызмам.

Арыстократызм — гэта слова таксама грэцкае. Азначае яно тое самае, што панашаму: улада лепшых, шляхотных (арыстос — лепшы, шляхотны, а кратэо — ўладаю, маю сілу). Значыць арыстократызм — гэта ўлада не аднаго

чалавека, а многіх „лепшых“, якія ў дзяржаве маюць паўнату ўлады. У аснове арыстократызму ляжыць тое пракананьне, што дзяржавай павінны кіраваць лепшыя, выбраныя людзі. Толькі гэтая „лепшасьць“ у розных краёх розна вырашалася. У аднэй старане за „лепшых“ уважалі тых, што выводзіліся з шляхоцкага роду (радавая арыстократыя), у другой — тых, што выдзяляліся спасярод другіх ваеннымі чынамі (вайсковая арыстократыя), у трэцяй — тых, што мелі шмат маемасьці і багацтва (плютократыя) — словам усюды пасвойму вызначалі „лепшых“. Рэдка дзе за лепшых уважалі тых, што сапраўды былі лепшымі і розумам і душою.

Вось такія „лепшыя“ людзі і называюцца арыстократамі, а форма іхнай улады арыстократызмам. Арыстократызм заўсёды найбольш дзяржаўся там, дзе панаваў монархізм. Монарх паводле іхняй тэорыі гэта найлепшы чалавек, а лепшыя ўсе тыя, што каля монарха, а ўсе далейшыя — гэта чэрнь, якая нявартa добрага слова. Арыстократычная ўлада, злучаная з монархізмам, была даўней у В. Княстве Літоўскім (баярства, магнаты) і ў Польшчы (шляхта, магнаты). Калі кучка арыстократаў захапляла ў свае рукі ўладу, такая форма ўладаньня называлася олігархіяй (олігоі — нямногія, архэ — ўлада).

Проціўпастаўленьнем да арыстократызму ёсьць дэмократызм, але аб ім другім разам. **Ваг.**

# Крыху з нашай гісторыі.

## Культура духовая старадаўных Славянаў.

Навука дакладна не сьцьвярджае, што старадаўныя славяне мелі аднаго супольнага паганскага бога. Кожная славянская група мела свайго бога, асобнага ад іншых групаў.

У Крывічоў былі як-бы тры галоўных багі: Пярун — бог перуноў, Дажбог — бог сонца і ўраджаю і Волас — апякун скаціны, але ўсёж-такі з гэтых галоўных трох багоў найважнейшым быў Пярун, хоцьбы дзеля таго, што людзі баяліся яго загнявіць, каб гэтым ня выклікаць ягоную кару на людзей.

Дажбога Славяне праслаўлялі дзеля таго, што ад яго залежалі добрыя ўраджаі і цяплыня — сонца. З гэтага бачым, што старадаўныя Крывічы зналі земляробства і гэта было адным з галоўных іхных заняткаў.

Побач з успомненымі багамі Крывічы аддавалі вялікую пашану богу Воласу — апякуну жывёлы. З гэтага таксама можам даведацца, што старадаўныя Крывічы займаліся скатаводзтвам і пчалярствам.

У славянаў палабскіх і ў жывучых над Балтыкам быў галоўным богам — Свантэвіт (Сьветавід), у чэсьць каторага была збудавана прыгожая сьвятыня ў месьце Арконе, на востраве Ругіі. У Памаранаў быў галоўны бог — Трыглав, у Абатрытаў — бог Сварог. Плямёны, з якіх утварыўся польскі народ свайго бога ня мелі (як аб гэтым сяньня цьвярдзіць навука), дык можна дадумывацца, што тагачасныя паганскія польскія плямёны аддавалі чэсьць багом Палабскім, бо Палабяне з польскімі плямёнамі жылі ў суседзтве.

Аб багах жаноцкага роду (багінях) навука вельмі мала мае вестак і дзеля гэтага паганскіх багінь славянскіх не вылічае.

Апрача галоўных багоў, якім Славяне аддавалі чэсьць і пашану надзвычайную, верылі яшчэ у цэлу чараду другарадных бажкоў. Спаміж гэтых бажкоў былі добрыя і злыя. У некаторыя нават і сягоньня веруць нашыя менш культурныя людзі, прыкл. русалкі, ваўкалакі, лесавікі, дамавікі, хляўнікі, утопленікі, упары і г. д.

А таксама і абрады паганскія дахаваліся і да сягоньнешніх часаў як: дзяды, дажынкі, купальле, пушчаньне вянкоў на ваду, тапленьне балвана ў пачатку вясны. І вось некаторыя абрады перайшлі ужо ў характар хрысьціянскі, захоўваючы толькі формы паганскія. Такія важнейшыя сьвяткі як: Каляды, Вялікдзень, Сёмуха, Св. Яна Хрысьціцеля (Купала) і інш. усе гэтыя паганскія сьвяткі прынялі пазьней характар хрысьціянскі.

З веры ў жыцьцё загробнае вынікла вялікая чэсьць памёршых. Цела памёршых закопывалі ў зямлю, або палілі на вогнішчы, спэцыяльна да гэтае цэрэмоніі ўладжаным. Трупа закопывалі або палілі заўсёды разам з яго улюбленымі за жыцьця рэчамі, прыкл.: канём, сабакам і г. д,, а ў найдаўнейшыя часы здаецца забівалі ўдаву на грабе мужа і разам з ім хавалі. У магілах з часоў паганскіх знаходзяць рожныя цікавыя рэчы тагачаснае эпохі прыкл.: сякеры, нажы, стрэлы, дзіды, мячы, пярсьцёнкі, кольчыкі і інш.

Хаўтурны абрад заўсяды закончываўся багатым пачастункам прысутных г. зв. трызнай (стыпай). На магілах ставілі яду і піцьцё памёршым ня толькі ў часе трызны, але і ў іншыя дні, празначаныя на чэсьць памёршых, напр. „дзяды".

Чэсьць багом старадаўныя Славяне аддавалі або ў сьвятых гаёх — лясох, горах, пушчах, або будавалі ім сьвятыні. Наскольні навука сьцьвярджае, сьвятыні былі дзеравяныя. У сьвятынях мясьціліся аграмадныя статуі багоў; унутраныя і вонкавыя сьцены сьвятыняў былі аздоб-

лены рознымі прыгожымі рэзьбамі, памаляванымі трывалымі і прыгожымі фарбамі.

На ахвяру багом Славяне складалі: жывёлу, земляныя плады, а часамі нават ваенных палоньнікаў. Спачатку ня было асобнага жрэцкага стану, а адпраўляньне набажэнстваў належала да бацькоў сем'яў. Зчасам вытварыўся стан жрэцоў (ахвярнікаў), каторыя былі ў вялікім паважаньні.

Вераваньне і парадак рэлігійны старадаўных Славянаў паказвае, што быў гэта народ, якога культура стаяла ўжо даволі высока. Вынаходы старадаўных рэчаў сьведчуць, што нашы паганскія продкі мелі ўжо пэўнае паняцьце прыгожства і прабавалі сваіх сілаў і на ніве мастацтва.

Аб старадаўнай літэратуры можам добра пераканацца з народных песьняў, прыказкаў і з старадаўных гаданьняў.

Вось і ўсё, што можна сказаць аб рэлігіі, як аб выяве духовай культуры старадаўных Славян. Праўда, гэтыя весткі аб даўнейшай паганскай рэлігіі дужа недакладныя, расьцярушаныя і несыстэматычныя, але трэба ведаць, што весткі аб даўнейшай рэлігіі Славянаў пададзены нам не паганскімі гісторыкамі, а хрысьціянскімі дый часта яшчэ нямецкімі і шмат пазьней, дык затым явы так недакладны і магчыма, напісаны тэндэнцыйна і варожа да паганства і славянства. Навука цяпер шмат працуе над тым, каб бесстаронна апісаць рэлігію старадаўных Славян бяз ніякіх прыкрас і выдумак. **М. Пяцюкевіч.**

# Шлях збудзіўшайся моладзі.

Заклік да працы беларускай моладзі здалеў закрасьціся ў маю сонную душу, збудзіць яе да творчае працы і паказаць шлях, шлях праўдзівы, па якім ня толькі хлопцы, але дзяўчаты павінны ісьці, каб прычыніцца да разьвіцьця беларускай нацыянальнасьці, да культурна-асьветнай працы. Як хлопцы, так і дзяўчаты павінны стойка імкнуцца да сваей ідэі, працаваць дзеля ўсьведамленьня працоўных гушчаў сялян і работнікаў у духу асаблівасьцяў і імкненьняў беларускага народу.

Гэтыя словы няхай стануцца заклікам для тых, што яшчэ сьпяць, што ня вырабілі ў сабе сілы духовай да барацьбы з цемрай.

Цемра — гэта найбольшы наш вораг.

Уся наша сіла залежыць ад таго, як высока культурнай і выхаванай будзе беларуская моладзь. Калі-ж мы гэта здабудзем, то ня здолее забіць нашае творчасьці, падняво-

ліць наш дух, здэнацыяналізаваць і перарабіць на свой капыл ніякая захопніцкая сіла.

Дык найбольшы час беларускай моладзі зразумець гэта, а так-жа зразумець трэба і тое, што працаваць у варожых да нас арганізацыях, як розныя польскія „Koły“ — ёсьць згубай для нас. Бо кожны добра знае, што мэтай „колаў“ гэтых ёсьць перадусім полёнізацыя.

Моладзь наша павінна згодна разам ісьці тым шляхам, які паказвае нам наша гісторыя і народнае імкненьне — шляхам да самаістненьня. І дзеля гэтага трэба працаваць перадусім у культурна-прасьветных беларускіх арганізацыях, стойка змагаючыся з усялякімі перашкодамі. І хоць ня мала трэба будзе ахвяр на гэтым шляху палажыць, то ўсё-ж такі беларуская моладзь не пакіне змагацца за пачэснае месца Беларусі між вольнымі народамі.

**Ліда Атрахімовіч.**

# З газэт.

### У каго „Szlak nienawiści“?

У № 29 выходзячае ў Вільні ксяндзоўска-панскае польскае газэты „Nasz Przyjaciel“, зьмешчана злосная „рэцэнзія“ № 7 „Шляху Моладзі“ п. н. „Szlak nienawiści“. У гэтай „рэцэнзіі“ вышэй названыя паны злосна прычэпліваюцца і нападаюць на нас за тое, што мы быццам займаемся палітыкай і сеем ненавісьць да ўсяго польскага.

Ня думаем мы ўваходзіць у дыскусію з Рэд. „Naszego Przyjaciela“ і даводзіць, што так ёсьць, як мы пішам і што так трэба пісаць, бо добра знаем, што мы яе не пераканаем. Ведаем добра, што ў вас такая апінія: як толькі сьведамы беларус, дык і камуніст, як беларуская праца, дык камуністычная і сеючая ненавісьць да ўсяго польскага. У вас няма, ані беларуса нацыяналіста незалежніка, ані беларуса набожнага хрысьціяніна, ані беларускае культурнае, прасьветнае, выхаваўчае, гаспадарчае і нават рэлігійнае працы. Мы адно запытаем: хто гэта і сярод каго сее ненавісьць?

Чаму вы, панове, не праводзіце культурнае працы, не вучыце беларускі народ у яго роднай і яму зразумелай беларускай мове? Ці гэта практычней ці скарэй можна чагось каго навучыць у незразумелай яму мове?

Чаму да польскае арганізацыі можа належаць моладзь непоўналетняя, (гл. гэты нумар „Шляху Моладзі“, арт. „Незацьверджэньне статуту Т ва Беларускае Моладзі „Будучыня“), а да беларускае не — і чаму для беларускае арганізацыі не зацьвярджаюць статуту?

Чаму вы думаеце, што як будзе папольску гаварыць

і папольску будзе „усьведамлены“, дык будзе мудры і сьветлы, а як пабеларуску, дык не!?

Не, паночкі, гэтай дарогай, якой вы ідзеце і сваёй працай ня прыносіце згоды! А заканчэньне вашае „рэцэнзіі“ стасуецца да вас і вашае працы, бо яна ёсьць пакрыта подласьцю і лжой, заўзятай ненавісьцю ды захопніцтвам.

(З.)

# Куток для спорту.

## С к о к і.

Скок ёсьць адным із найстарэйшых лёгка-атлетных цьвічэньняў. Сама прырода змушала першабытнага чалавека карыстацца гэтым спортам. У барацьбе за быт мусіў калісь чалавек пераскаківаць праз розныя равы, ляжачыя бярвеньня і г. п. Старадаўныя грэкі зьвярталі вялікую ўвагу на гэтую галіну спорту.

З гімнастычнага пункту гледжаньня, скок ёсьць усестароннім цьвічэньнем. Тут бяруць удзел мускулы ног, плячэй, шыі, жывата і ўсе суставы.

Скок складаецца з некалькіх гімнастычных рухаў: разьбег, адбіцьцё (падскок), перанашэньне тулава над перашкодай і паданьне на зямлю.

Пры гэтых рухах цэнтральная нэрвовая сыстэма высылае шмат імпульсаў да розных групаў мускулаў у вельмі хуткім часе.

Дзеля гэтага тут цьвічыцца супрацоўніцтва рухаў, у чым бярэ ўдзел уся нэрвовая сыстэма, словам—скок гімнастыкуе мускулы, нэрвы, і ёсьць карысным у практычным жыцьці.

Скокі дзеляцца на: скок у вышыню, скок у далячыню з месца, або з разьбегу і скок з тычкай. Пра скокі з месца тут ня будзем гаварыць, бо яны цяпер зусім мала ўжываюцца.

Скок у далячыню з разьбегу выконываецца гэтак: скачучы разьбегаецца на некалькінаццаць крокаў да васьміцалёвае бэлькі (адскочкі), упушчанай у зямлю так, каб не тырчэла, а была роўна з зямлёю. Дабегаючы да гэтай бэлькі, скачучы адбіваецца на ёй (адскаквае), каб як найдалей пераскочыць.

Скок у вышыню з разьбегу выконваецца падобна, як у далячыню, толькі адскок (адбіцьцё) тут ня злучаны з адскочняй. Тут скачучы адбіваецца ад якога хоча месца, абы толькі пераскочыў, не зваліўшы перашкоды. Да скоку ў вышыню ўжываюцца два дзеравяныя стаякі, пастаўленыя на 4 мэтры адзін ад другога. Паміж гэтымі стаякамі кладзецца тонкая дзеравяная тычачка, праз якую трэба пераскочыць, не зваліваючы яе.

Скок з тычкай: скачучы разьбегаецца на якіх 30 мэтраў ад скочні, трымаючы ў руках тычку. Перад скочняй ён апіраецца на тычку і падымаецца на ёй у разьбегу. Калі цела скачучага будзе ўжо над перашкодай, якую трэба пераскочыць, ён пускае тады з рук тычку, каб яна засталася перад перашкодай, а сам саскаківае на зямлю. Тычка да скоку павінна быць з бамбусу, даўжынёю 3 з палавінай 4 мэтры, закончаная шпічастым жалезным акуцьцем.

Да ўсіх скокаў на скочні павінна быць скапаная зямля, каб мягка было скакаць. Скачучы павінен ведаць, што ніколі нельга скакаць на пяткі, бо ад гэтага можа быць устрасеньне мазгоў. Трэба скакаць на пальцы і пры гэтым не трымаць штыўна кален, а так, каб яны ўгіналіся, як пружына.

Цікаўна ведаць, як далёка або высока могуць людзі скакаць?

Дык вось: сусьветны рэкорд скоку ў вышыню выносіў да 1925 году 2 м. 14 цэнтым. гэтак высока пераскочыў амэрыканец Beeson.

Сусьветны рэкорд скоку ў далячыню выносіць 7 м. 6 цм. 95 мм. Так далёка скочыў амэрыканец Gonrdin. Рэкорд скоку з тычкай (ўвышыню) 4 м. 21 цм. Гэтак скочыў нарвэгчык Hoff.

**Ул. Казлоўшчык.**

# Літэратурны аддзел.

## НІЧОГА...

Нічога мне болей ня трэба:
Багацтва, ні славы пустой,
Каб скромны кусочак быў хлеба,
Зароблены ўласнай рукой.
Ня прагну багацтва чужога,
Бо шчасьця яно мне ня дасьць,
Хто потам жырэе другога,
Той можа, як відзім, прапасьць.
Ня прагну чужое айчыны,
Малога шматочка ральлі,
А нават за жонку дзяўчыны
З суседняй – ня нашай зямлі.
Нічога ня хочу, нічога,
Найменшай пылінкі чужой!
Даволі мне будзе сваёга,
Што ёсьць ў краіне маёй.
Мне хочацца толькі прыждаці
Свабоды Айчыне маёй,
А потым спакойна сканаці
І сьніці заўсёды аб ёй.

**Марвіч.**

* * *

Прайшоўшы праз мора жыцьцёвых сапсуцьцяў,
Хацеў згрунтаваць я, дзе пекла ёсьць спод.
Шукаў для сябе я ўсё новых пакусаў,
З Бахусам й Вэнэрай я вёў карагод.

Яшчэ ня зыйшоў я ў бяздоньне ўсіх змыслаў,
каб там любавацца цярпеньнем граха:
ўстрымала мяне ўжо любоўю прачыстай
дзявочай душы ядвабіста рука.

Яна абудзіла зярнятка каханьня,
сьвятога каханьня нявіннай душы,
што дзесьці дагэтуль было без пазнаньня
ў маёй ўжо прайшоўшай жыцьцёвай глушы...

Мо' гэта зярнятка яшчэ закрасуе,
прыгожаю кветкай ва мне зацьвіце,
а можа зярнятка чарвяк злы папсуе
й на дрэва няшчасьця яно узрасьце.—

**Казлоўшчык.**

## ВЯСНА ЗАЛАТАЯ...

Пара маладая
І сонца румяны усход,
І новая сіла ўжо, сіла жывая,
Ад сну прабуджае народ.
Устае ўжо сіла — сьвядомасьць людзкая,
І песьняў і думак зара.
Гэй, гэй, мая бедная вёска глухая,
За працу прыняцца пара!
На росстань рабоча-сялянскай дарогі
Ты вынесеш сьвету агні.
Із сілы змаганьня, із болю трывогі
Народзяцца новыя дні.
Асьвецяць, сагрэюць і душу, і грудзі —
Праменьні цяпла і дабра.
Гэй, гэй, прабуджайцеся бедныя людзі,
За працу ўзяцца пара!...

**С. Машара.**

## ВЕЦЕР.

Гэй, павей ты вецер,
Ад краю да краю.
Разгані ты, вецер,
Хмары цёмнай ночы;
Што заслалі неба —
Блакіт кругазору,
Ды не даюць ходу
Народнаму мору —
Дзе без граніцаў
Чалавеча гора:
У сталёвых аковах —
Свабода і воля...
Дык павей ты вецер,
Разгані ты хмары,
Ды запей ты песьні
Із народнай мары. —

**Пал. Алекса.**

## ТЫ НЯ ПЛАЧ...

Ты ня плач,
Ты ня енч
У сэрцы чуткім струна;
Лепш цярпі,
Моўчкі пі
Гора чару да дна.
Затушы
Заглушы
Боль у сэрцы сваём,
Хоць кіпяць,
Хоць гараць
Моцна раны у ём.
Затушы,
Заглушы
Чуткасьць сэрца свайго;
З ім на век
Ўмоўкне енк —
— Супакоіш яго ..

Лепш з грудзей
Да людзей
Хай ня вырвецца жаль,
Сьмешна ім
Будзе ўсім
Сэрца чуткага боль.
Не адзін
Люду сын
Ад сьлёз, жалю канаў;
У бядзе,
У нудзе
Лепей хай-бы сьпяваў!
Быў той час,
Калі ў нас
Многа сьлёз пралілі,
Што-ж нам жаль,
Тая боль,
Тыя сьлёзы далі?

А цяпер
Ты павер,
Мы ня будзем стагнаць!
Для Цябе,
Беларусь,
Будзем шчасьце каваць!

**Леанід з пад Вішнева.**

## НЕ ЧАКАЙЦЕ.

Ні на кога не чакайце,
Дружна самі вы ўставайце,
Паглядайце ў сьвет.

Сонца вочы асьляпіла,
Блескам яркім скрозь абліла,
Дзівіць поле, лес.

Кожны чуе, бачыць шчасьце—
Чалавек, ты устань з закляцьця
Зіхаціць вясна.

Паглядзеце старадаўны —
Песьня родзіцца ўдалая
Новага жыцьця.

Нам вясна сагнала ночы,
Асьляпіла сонца вочы
Шчасьця пазнаваць.

Дык цягнемся хоць душою
Падзівіціся красою,
Сум свой разагнаць.

**Малады Дубок.**

## ЛЮБЛЮ...

Люблю я летнюю часінку,
Люблю я раньні сенакос.
Люблю я родненькую вёску,
І скрып нямазаных калёс.

Люблю я зраньня ржаньне коні,
Вясёлы гоман пастушкоў.
Кароў мычаньне дзесь на полі,
І звонкі сьмех вясковых дзяцюкоў.
У гарачы поўдзень птушак песьні,
Стрыканьне мошак-турчукоў.
Люблю, як сонца дзесь ў залесьсі
Прамень злацісты кіне свой.
Люблю я пень з зялёным мохам,
Дарожку між травы густой.
Люблю я краскі з чароўным пахам.
І песьню птушкі дарагой.
Люблю я сьпелыя пасевы,
І таёмны шорах між кустоў,
Люблю я польныя напевы
Жней, вяртаючых дамоў.
Люблю вячэрнія зарніцы,
І звон касьцельны на мальбу
І як бабулька ля крыніцы,
Бярэ сьцюдзённую ваду.

м. Рыга. **Ул. Бяздольны.**

## УСПАМІНЫ.

(Абразок з праўдзівасьці).
(Працяг, гл. № 7 „Ш. М.“)

Аднойчы часам падасеньнім,
Пагодным, ясным днём нядзельным,
Я йшоў адзін казённым лесам,
Здаецца, з нейкім інтарэсам.
Я выйшаў з лесу на палоскі
Вузкіх і доўгіх шнуроў лоскіх,
Расцягненых у даль бязконца...
Было на захадзе ўжо сонца
Й асеньнім сьветам залаціла
Наўкола ўвесь простор. Як міла
І хораша ўсё выглядала!
Я ўспамінаў, як тут бывала,
Прыгожай, прошлаю вясною,
Дарожкай вузенькай, крывою,
З лясной работы йшлі да хаты
З вясёлым гоманам дзяўчаты.
Вясёлая была работа!...
Бывала, аж зірнуць ахвота
Як стануць ў рад каля дарожкі,
Дзе густа парасьлі бярозкі,
І гачкамі зямлю капаюць
Й насеньне ёлак засяваюць.

Насеньне ж было „малявана“,
Чырвонай фарбай абсыпана,
Каб птушкі часам не спазналі
І тых зярнят не падзяўбалі.
І вось як часам „прыганяты“
Адвернецца, тады дзяўчаты
Дурэць між сабой пачынаюць:
У жменю фарбы тэй хватаюць:
І сьмяючыся адна другую
Чырвонай фарбаю „пудрує“.
А тая „пудру“ абцірае,
Яе так спрытна даганяе
І за сукенку ухапіўшы
Сьмяецца, ўдачна паваліўшы.
Тут болей дзевак налятаюць
Адны другіх яны валяюць,
„Агульніца!“ — крычаць, рагочуць
Пакуль зьненацку не наскочыць
На шутку іхнюю Паўлоўскі,
Ці Русакевіч Карачоўскі,
Якога ўсе найгорш баялісь
І за работу ўраз хапалісь.
Вось ён застаўшы непарадкі
Крычыць і ўспамінае маткі
И такіе словы выкідае,
Што і расказ мой ня прыймае;
А накрычэўшыся даволі,
Ад гневу стыне ён паволі.
Дзяўчаты-ж нораў яго знаюць
І гутарку ўраз пачынаюць
Пра ўсякія такія справы,
Якія слухаць ён цікавы.
Тут зараз ён пачне пытацца
Пачне і жартаваць, сьмяяцца...
Ніхто яго так ня прыладзе
Як адна дзеўка з Лоска, Нэдзя,
Фамілію-ж яе забыўся
І толькі калі ня змыліўся
Была яна дачка Рамана.
Вось гэта дзеўка свайго пана
Каторы час, як забаўляе
І ён пра ўсё ўжо забывае
Й такую гутарку заводзе
Што аж ня можна пры народзе
Аб ей расказываць падробна;
Каб пераказаць яго жарты
Якія добрых слоў ня варты.
А ззаду зноў сьцішка дурэюць,

Ізноў штургаюцца, шалеюць,
Ды кожная ўжо пазірае,
Ці йшчэ лясьнік не заўважае,
А лясьнік так загаварыўся,
Што пра работу ўсю забыўся.
Дзяўчатам гэтага-ж і трэба
Й яны глядзяць ужо на неба—
Ды йшчэ штось сонца не заходзіць...
Вось пачакаўшы надыходзяць
С кантрольнай кніжкаю Паўлоўскі
І Стафановіч — лясьнік лоскі,
Усіх рабочых выклікаюць,
Па колькі дзён былі, пытаюць,
І неўзабаве ўсе дзяўчаты
Ідуць гамонячы да хаты.
Назаўтрае-ж ізноў прыходзяць,
Іх лясьнікі у лес заводзяць
Дзе зноў працуюць, весяляцца...
І я, калі ня грэх прызнацца,
Быў ад лясьнічага нанятым
Пры іх так званым „прыганятым“,
Аднак я з імі добра ладзіў
І к лепшаму заўсёды радзіў.
Я к ім прывык і з імі зжыўся,
Хаця-ж калі й крычэў, сварыўся,
Але да вечара заўсёды
Я не выдзержываў тэй моды.

(д. б.)

**Юл. Сяргіевіч.**

## Лес Ваўштолы.

Лес Ваўштолы досыць доўгаю і шырокаю палоскаю цягнецца ў далячыню.

О, як мілы, любы, чароўны і прыгожы гэты лясок! Улетку ў гэтым лесе можна пачуць розныя гукі, крыкі, сьпевы, іграньне на дудках пастухоў ці так гоман хлопцаў і дзяўчатаў, якія ідуць туды зьбіраць ягады ці грыбы. Таксама чуецца рыканьне скацінкі, якая пасецца ў гэтым лесе і пяяньне птушачак, якія так люба весяляць усіх людцоў, а такжа і піскі розных дзікіх зьвяркоў.

Мілы, сапраўды мілы гэты лясок і затым, што шмат ён людцоў выгадаваў і выкарміў сваімі прыроднымі багацьцямі.

Прышлі часы ваенныя, пачаўся вялікі голад, народ ня ведаў, гдзе і ў які бэк кінуцца; каб з голаду не памерці, кожны быў-бы рад сабраць якую жменю ягад, а нават якой-небудзь травы-крапівы. Многа людзей траціла свае маладыя сілы і мусіла разьвітацца з гэтым сьветам!

Апякуном у той час гэтага гаротнага народу быў лес Ваўштолы, тут можна было ўбачыць цэлымі раямі людцоў-беднякоў, якія шукалі для сябе пажыўленьня; многа такіх было, што падчас шуканьня пожывы раптоўна падалі на зямлю і засыналі на векі, а цэлымі стадамі налятала груганы, вароны, каршуны і разносілі гэта цела па цэлым лесе!

Любаваліся гэтым лесам расейцы і немцы, але найбольш гэтыя апошнія. Падчас іх тут „гашчэньня", пачалося высяканьне, нішчэньне і выпаліваньне гэтага лесу. Пачаў ён радзець з году ў год і на месца прыгожых ёлачак, бярозкаў, дубочкаў пачалі ўзрастаць вайсковыя будынкі — зямлянкі, з якіх толькі можна было ўбачыць смуродлівы чорны дым, што выкочываўся вялікімі клубамі ў прасторныя нябёсы і там зьнікаў.

Прайшоў той час, настала новая пара жыцьцёвая. Немцы вярнуліся на сваю бацькаўшчыну.

Прышлі палякі, якія так-жа ў сьлед за першымі пачалі высякаць, нішчыць гэты вялізарны, так прыгожы, любы для нашага народу — лес.

Цяпер ужо можна сказаць, што сапраўды асірацеў лес Ваўштолы, бо калі паглядзіш на яго, дык сэрца ад болю сьцісьнецца, а з вачэй нехаця сьлёзы пацякуць цуркам. Віднеюцца цяпер толькі адны пачарнеўшыя і грыбамі ды мохам паабраставшыя пні. Часам ідучы можна гдзе-негдзе спаткаць убогую бярозку, або часамі дрыжучую асінку, якая, відаць, сумуе па сваіх бацькох і дзядох, бо цэлымі днямі і начамі ўсё паціху шапаціць і шапаціць...

Ёсьць тут яшчэ адзін-адзіны аграмадзісты, сучасты, магутны дзед — дуб. Многа прышлося яму зацерпіць голаду і холаду і розных нягод. Ад яго можна было пачуць толькі басіста-жаласьлівую песьню, якую ён пяе падчас надходзячай буры-навальніцы.

На месца гэтага старога лесу пачало ўзрастаць маладое пакаленьне; але яму беднаму не даюць паўстаць на ногі.

Аднак напэўна прыдзе час, калі гэта маладое лясішча праб'ецца праз розныя перашкоды, зазелянее і закрасуе на цэлую старонку Беларусь!

**Янка Ваўштолскі.**

# Лісты.

## КЕПСКА ВУЧАЦЬ.

**Жыравіцы.** Слонімскага пав. У нашым мястэчку ёсьць польская школа, аднак не дае яна тае веды і выхаваньня для сваіх вучняў, якую павінна была б даваць. Як прыклад могуць паслужыць пастулкі канчаўшае гэту школу і вучачаеся там моладзі, якая з неасьвечанай вясковай моладзьдзю гаворыць ня хоча, а калі прыдзе да пісаньня, дык бляякету запоўніць ня можа. У канцы школьнага году вучыцель даў аднэй з „лепшых" з старшага аддзелу вучаніц, каб яна запоўніла бляякеты зьніжковыя на чугунку, даючы нават сьпіс, з якога толькі трэба было сьпісаць назовы станцыяў, час выезду, і прыезду, імя і прозьвішча вучня.

У выніку аказалася, што часьць бляякетаў была зусім сапсавана, а часьць кепска напісана, бо там, дзе трэба было напісаць імя і прозьвішча — былі напісаны назовы станцыяў, а там, дзе назовы станцыяў — імя і прозьвішча.

Гэта сьведчыць аб тым, што чужая школа, дзе вучаць беларускіх дзяцей у польскай мове, вельмі мала дае для моладзі.

Бацькі беларускіх дзетак павінны на гэта зьвярнуць увагу і ўсялякімі сіламі дамагацца для сваіх дзетак школы ў бацькаўскай роднай беларускай мове. Цяпер-жа якраз пара, калі трэба складаць дэкляарацыі да школьнага інспэктара, калі хто хоча мець беларускую пачатковую школу.

І справы гэтае ня трэба на доўга адкладаць, а навязаўшы лучнасьць з Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры у Вільні, які вышле інструкцыю і дакляарацыі, дабівацца свайго.

Вось-жа, даражэнькія, што канчаеце вышэйўспомненую школу, скажу вам, што чалавек вучоны, добра выхаваны, ніколі не пагарджае чалавекам цёмным, нявучоным і вельмі многа выбачае яму за яго часамі неадпаведныя паступкі. Вы тым-больш не павінны гэтага рабіць у адносінах да сваіх братоў-суседзяў, бо так толькі паступаюць людзі невыхаваныя, недавукі, думаючы аб сабе за шмат няведама з якой прычыны. Жыравіцкі.

## НЯ ТРЭ БАЯЦЦА.

**Порплішча,** Дзісенскага пав. Сяляне нашай старонкі датаго ўжо запужаны арыштамі, што баяцца браць у рукі кніжку ці газэту беларускую. З гэтага карыстаюць усялякія польскія „Koły Młodzieży" і стараюцца распаўсюджваць польскую літэратуру.

Вось-жа зьвертаем увагу, што ніхто ня мае права забараніць чытаць беларускіх кніжак і газэт. Мы беларусы,

асабліва-ж моладзь, павінны перадусім старацца як найбольш іх чытаць. З беларускіх кніжак і газэт мы хутчэй навучымся, як трэба жыць і даведаемся, як людзі жывуць, бо яны пісаны ў зразумелай для нас мове.

Дык замест „Żołnieża Polskiego" ды іншых выпісваймо сваю часопісь „Шлях Моладзі", свае беларускія кніжкі і чытаймо іх замест таго, каб марнаваць час, цягаючыся па „Кулках" і „Стрэльцах", што ня прыносе нам найменшае карысьці.

М. К.

## З ЖЫЦЬЦЯ ЖАНОЦКАЙ МОЛАДЗІ.

**Грыцэвічы**, Нясьвіскага пав. Жаноцкая моладзь, гэта знача дзяўчаты, у нашай Грыцэвіцкай воласьці складаюць большую частку моладзі. Аднак, ня гледзячы на лічбовую перавагу, нашы дзяўчаткі далёка адсталі ў культуры ад хлопцаў. Аграмадная большасьць дзяўчат— неграматныя, неразьвітыя.

Але вучыцца граматы ніколі ня позна і каб нашы дзяўчаты мелі жаданьне вучыцца, дык даўно-бы гэта зрабілі. Уся бяда тут ў сораме і не хвоце да навукі. Лепей іншая з нас цэлы дзень пралежыць, альбо праседзіць за пустой баўтаўнёй, чымся будзе вучыцца граматы, чытаць газэту, кніжку.

Пры гэтым хачу адцеміць і добрые рысы ў жыцьці нашых дзяўчат. Прадусім — пабожнасьць.

Кожную нядзелю, ці сьвята, можна ўбачыць доўгія рады дзяўчат, ідучых да царквы ці касьцёла.

Апрача гэтага, граматныя, больш разьвітыя дзяўчаты, разам з хлопцамі пашыраюць беларускую культуру, ладзячы тэатральныя прадстаўленьні і інш. Але гэткіх дзяўчат, на жаль, ёсьць вельмі мала.

Дзяўчаткі, гэтак жыць далей ня можна. Трэба прыглядацца да праяваў культурнасьці і самым вучыцца!

Гэля Беларуска.

## ПАТРЭБНА СВАЯ КУЛЬТУРНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ.

**в. Арэхаўка**, Браслаўскага пав. У той час калі польскія асаднікі вельмі моцна ўзяліся за палянізацыйную работу, залажыўшы „Dom Ludowy" і ладзячы там польскія спэктаклі, танцулькі, гулянкі і п'янства, — моладзь наша беларуская ідзе сваей дарогай. І так — замест таго, каб ісьці на „польскія забавы," яна ладзіць свае вясковыя сялянскія вечарынкі, хоць і без спэктакляў, але усё ж такі культурна і весела правядзе час. Астаецца адно пажадаць, каб моладзь наша пастаралася залажыць Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і пачала сыстэматычна працаваць над падняцьцем роднай культуры, ладзячы беларускія навучныя лекцыі, спэктаклі, вечарыны і г. д.

І. П—в.

# ✻ Хроніка. ✻

**Закрыцьце Гуртка Беларускага Інстытуту Гасп. і Культ. у в. Сьвірыдавічах,** Ашмянскага пав. Віленскія ваяводзкія ўлады загадам з 8.VIII г. г. закрылі Гурток Бел. Інстытуту Г. і К., быццам за тое, што дзейнасьць гэтага гуртка разьміналася з мэтамі Інстытуту, выказанымі ў статуце.

**Незацьверджэньне статуту Т-ва „Гайсак".** Як даведываемся, дык у той самы дзень, калі віленскія ваяводзкія ўлады адмовіліся зацьвердзіць статут Т-ва Беларускае Моладзі, аб чым пішам на іншым месцы, гэтыя ж самыя ўлады адмовіліся зацьвердзіць статут Беларускага Гімнастычнага Т-ва „Гайсак". Закладчыкі гэнага Т-ва падалі яшчэ заяву да Міністэрства Унутраных Спраў, просячы зацьвердзіць статут.

**Канфіската „Беларускае Крыніцы".** Па загаду Віленскага Гарадзкога Старасты сканфіскаваны № 24 „Бел. Крыніцы" з датай 12.VIII г. г. за зьмяшчэньне вестак аб арышце скарбніка Гуртка Бел. Інстытуту Г. і К. у в. Сьвірыдавічах, Ашмянскага пав., гр. Чыжэўскага, якому польскія ўлады закідаюць камувістычную работу.

**Забароны.** Віленскі арцыбіскуп Ялбжыкоўскі апошнім часам забараніў старшыні Бел. Інстытуту Г. і К. Кс. В. Гадлеўскаму чытаць лекцыю ў Гуртку Інстытуту ў Жодзішк х. Кс. Ад. Станкевічу Вялейскі Стараста ня даў дазволу на прачытаньне лекцыі ў тым-жа гуртку ў дзень 17 жніўня с. г. Жодзішны Гурток 17 жніўня ладзіў дажынкі.

**Вучыцельская Сэмінарыя ім. Фр. Багушэвіча.** З пачаткам сёлетняга школьнага году Міністэрства Асьветы адчыняе ў Вільні Дзяржаўную Коэдукацыйную Вучыцельскую Сэмінарыю ім. Фр. Багушэвіча. У сэмінарыі гэтай будуць вучыць папольску і пабеларуску. Хто хоча паступіць вучыцца павінен падаваць заяву з пасьведчаньнем аб сканчэньні 4 кляс гімназіі, або 7 аддзелаў пачатковае школы да Віленскага Школьнага Куратарыюму. Сэмінарыя будзе мясьціцца на Вострабрамскай вул. у быўшым памешканьні польскае гімназіі ім. Крашэўскага.

Трэба ведаць, што сэмінарыя гэта мела быць чыста беларуская, адвак, як бачым, дык з вышэй сказанага вынікае што яна будзе „ўтраквістычная" і не называецца нават беларускай.

**„Цэнтральны Саюз Беларускіх Культурна-Прасьветных арганізацыяў."** У першай палове жніўня віленскія ваяводзкія ўлады зацьвердзілі статут Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна Прасьветных арганізацыяў. (Зьвяртаем увагу, што зроблена гэта ў той час, калі не зацьвердзілі ўлады ані статуту Т-ва Беларускае Моладзі „Будучыня",

ані Т-ва „Гайсак"). У склад саюзу ўваходзяць і зьяўляюцца яго закладчыкамі наступныя арганізацыі: „Беларускае Выдавецкае Т-ва", „Беларускае Навуковае Т-ва", „Беларускі Вучыцельскі Саюз", „Гаспадарскі Зьвяз" — адным словам тыя „арганізацыі", якімі апякуюцца ці на чале якіх стаяць гр. гр. Янка Станкевіч, Антон Луцкевіч і іхная кумпанія, а гэта ўжо само за сябе гавора... і выдае апінію аб новым саюзе...

**Лекцыя ў в. Кірдзееўцы.** 24 жніўня с. г. Кс. В. Гадлеўскі прачытае лекцыю ў Гуртку Бел. Інстытуту Г. і К. у в. Кірдзееўцы, Тургельскае гм., Віл.-Троцкага пав., на тэму „Пачатак Беларускага Народу".

— 10-га жніўня Кс. В. Гадлеўскі чытаў лекцыю ў гуртку Інстытуту ў м. Медніках, Віл.-Троцкага пав.

**Будслаўскі Гурток Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры** ў Вялейскім павеце апошнім часам вельмі інтэнсыўна вядзе культурна прасьветную працу, арганізуючы часта спэктаклі, зборкі і інш. Дык няхай ён жыве і разьвіваецца! Слава Будслаўскім працаўніком!

**Звальненьне з вастрогу павадыроў „Грамады".** Па загаду Міністра Справядлівасьці зовльнены тымчасова, да таго часу, калі Прэзыдэнт дасьць амнэстыю, наступныя павадыры Беларускае Сял.-Раб. „Грамады": б. паслы Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла і гр. гр. Бурсэвіч і Акінчыц. З грамадаўскіх паслоў сядзіць яшчэ ў вастрозе Валошын.

**З украінскага жыцьця.** Апошнім часам, як падаюць украінскія газэты, у Заходняй Украіне пад Польшчай вельмі часта робяць польскія ўлады рэвізіі ў украінскай моладзі, а так-жа вельмі часта арыштоўваюць.

— Украінская моладзь, шануючы памяць забітых украінскіх жаўнераў ў барацьбе за незалежнасьць Украіны, стараецца, каб магілкі іх выглядалі прыгожа і дзеля гэтага аднаўляе іх. Польскія адміністрацыйныя ўлады за гэта караюць маладых украінскіх патрыётаў штрафам або арыштам, як за няпраўнае будаваньне магілак, бяз ведама Староства.

**З Польшчы.** У жыцьці Польшчы за апошні час нічога асаблівага ня сталася. Прэзыдэнт езьдзіў у палове м-ца жніўня ў адведзіны ў Эстонію. — За летні час адведалі Польшч некаторыя заграмічныя міністры, а міністр заграмічных спраў Польшчы адведаў некатарыя эўрапэйскія дзяржавы. — Польскім фінансістам, як падаюць газэты, паміма вялікіх забот, нідзе не ўдалося атрымаць пазыкі.

**Польшча і Нямеччына.** Нядаўна нямецкі міністар Трэвіранус афіцыяльна заявіў, што Нямеччына мусіць і будзе дамагацца рэвізіі ўсходніх нямецкіх граніцаў, а гэтым самым скасаваньня калідору — польскага доступу да мора,

з мэтай, каб прылучыць яго да Нямеччыны. На гэта востра запратэставаў міністар заграгічных спраў Польшчы. Справа гэта шырока апісваецца ў ва ўсіх газэтах.

Польшч і Літва. Апошнім часам разышліся погаласкі, быццам Літва цераз пасярэдніцтва Рыму вяла перагаворы з Польшчай у справе наладжаньня добрасуседзкіх адносінаў. Вось-жа Літоўскае Тэлеграфічнае Агенства выдала афіцыяльны камунікат, у якім пярэчыць гэтым погаласкам.

У Літве з Коўна вывезены б. дыктатар Вальдэмарас у адно правінцыянальнае мястэчка. Зроблена гэта дзеля таго, каб перашкодзіць яму ў яго працы, якую праводзіў процiў сучаснага ўраду Літвы.

У Кітаі ізноў разгарэлася змаганьне паміж камуністымі і нацыяналістамі за ўладу. Змаганьне гэтае зьмянілася ў фармальную хатнюю вайну.

**У Індыі** далей неспакойна. Правадыр Індыйскі Гандi паміма таго, што сядзіць у вастрозе, усё-ж-такі вядзе барацьбу з ангельскімі ўладамі, пасылаючы ім мэмарыялы.

Паміж **Турцыяй і Пэрсіяй** выбухла вайна за курдыйскае племя, якое ёсьць пад уладай Турцыі. Справа ў тым, што курды, не хочучы быць пад панаваньнем туркаў, робяць розныя праціўдзяржаўныя выступленьні, а дзеля таго, што паложаныя яны на граніцы Пэрсіі з Турцыяй, дык потым уцякаюць у Пэрсію. І вось-жа апошнім часам туркі, гонячысь за курдамі загналіся яж у Пэрсію. І няведама, да чаго гэта давяло-б, калі-б пэрсы таксама не зачалі біць курдаў, бо гэта апошняе зьменшыла ахвоту туркам біць пэрсаў.

**У С.С.Р.Р.** у Маскве цяпер адбываецца зьезд камуністычных прадстаўнікоў з усяго сьвету.

## Усячына.

**Безрабоцьце ў Амэрыцы.** У багатай Амэрыцы лік безработных дасягае нячуванае лічбы, бо аж 6 мільёнаў 600 тысяч асоб. Дзеля гэтага нават Канада замыкае граніцы іміграцыі, а ў Аргентыне таксама вялікае безрабоцьце.

**9.857.882** жыхараў мае цяпер паводле навейшае статыстыкі места Нью-Ёрк у Амэрыцы. Места Нью Ёрк ёсьць яшчэ вельмі маладое, бо як пішуць францускія вучоныя заложанае яно 300 гадоў таму назад праз калявістаў раманскага паходжаньня, гаворачых пафранцузку.

**Філёзаф Фрыдрік Нічшэ з па-за гробу дыктуе свае новыя творы.** У жніўні месяцы с. г. мінае трыццаць лет ад сьмерці вялікага нямецкага філёзафа Ф. Нічшэ. Апрача стацей, друкаваных пра жыцьцё і творчасьць гэтага філё-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

зафа, прэса цэлага сьвету распісваецца цяпер пра такое сэнсацыйнае здарэньне, зьвязанае з імем філёзафа. Вось-жа італьянскі доктар Пэтрі наладзіў у сваём доме спірытыстычны сэанс. Аднаго вечара учасьнікам сэансу прышло на думку выклікаць духа Фр. Нічшэ. На другі сэанс запрошана некалькі вучоных з Туріну і выклікана Нічшэ ізноў. Прысутны прафэсар і выдавец Бокка пачаў запісваць, што гаворыць дух Нічшэ і за некалька вечароў Нічшэ падыктаваў цэлы свой твор. Цікава, што ніхто з учасьнікаў сэансу ня знаў твораў Нічшэ і што пасьля іншыя знаўцы філёзафа Нічшэ сьцьвердзілі, што словы, якія дыктаваў дух нямецкага філёзафа, былі прадаўжэньнем твораў, выданых за яго жыцьця. Сьцьверджана нават падобнасьць стылю, дзенебудзь тыя самыя сказы і той самы сьветапагляд. У рэзультаце цяпер выдавец Бокк выдаў новы твор Нічшэ „Мэсія", — твор дыктаваны філёзафам з па-за гробу.

Калі гэта ня ёсьць якое ашуканства—дык вельмі цікавае зьявішча, якое разглядаецца ўжо вучонымі цэлага сьвету.

**Карабель без каманды і аэраплян без лятуна.** 25 і 26 жніўня с. г. адбудуцца на Балтыцкім моры вялікія манэўры нямецкага ваеннага флёту. У манэўрах гэтых прымае ўдзел ваенны карабель „Zahringen", ідучы без каманды.

На караблі гэтым будуць пастаўлены спэцыяльныя апараты, пры помачы якіх гэтым караблём будзе кіраваць другі карабель, плывучы з два кілямэтры далей.

— У Англіі цяпер адбываюцца вялікія напаветраныя манэўры. У часе гэтых манэўраў будзе зроблена проба з эскадрай аэраплянаў, якія будуць лятаць бяз лятуноў і кідаць бомбы, калі гэтага захочуць тыя асобы, якія будуць кіраваць аэраплянамі з зямлі. Проба выказала, што аэраплян без лятуна можа ўтрымацца ў паветры больш як 4 гадзіны.

## Наша пошта.

Я. Сухадольскаму. Верш да друку не падходзіць, пішыце лепш прозай.

Я. Янушэвічу. „Шлях Моладзі" высылаем акуратна, дамагайцеся на пошце.

С. Машары. Вершы атрымалі, будзем друкаваць. На просьбу Вашу, з вялікай прыемнасьцю залічаем Вас у лік сваіх супрацоўнікаў. „Шлях Моладзі" высылаем і шчыра дзякуем за добрыя словы.

Лідзе Атрахімовіч. Вітаем Вас, як сваю супрацоўнічку. Матэр'ялы атрымалі, як бачыце, часьць з іх зьмяшчаем ўжо ў гэтым нумары, рэшту зьмесьцім у наступн. нумары.

Жыравіцкаму. Карэспандэнцыю атрымалі, дзякуем, як бачыце зьмяшчаем. Просім пісаць на далей.

С. Жалюбчыцкаму. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Як бачыце карэспандэнцыю друкуем і будзем друкаваць вершы, каторыя падыдуць, пробныя нумары на прысланыя адрасы і № 1 „Ш. М." выслалі.

Пал. Ал—са. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Верш добры, як бачыце, друкуем. Карэспандэнцыю зьмесьцім у наступным нумары. Вельмі цешымся, што падабаецца Вам наша часопісь.

Ул. Бяздольнаму ў Латвіі. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем. Вы можаце добра пісаць, толькі яшчэ трэба папрацаваць над сабой. Як бачыце адзін верш друкуем. Просім пісаць на далей, мы дужа цешымся, што Вы будзеце супрацоўнічыць

Іг. Пупіну. Карэспандэнцыю атрымалі, дзякуем, друкуем. Брашурку і № 7 „Ш. М." выслалі, № 2 за 1929 г. ня маем, ужо разышоўся. Высылкі „Ш. М." Вам ня спынялі, дамагайцеся на пошце, бо мы высылаем акуратна.

К. Матусэвічу. Матэр'ялы атрымалі, дзякуем, выдрукуем у наступным нумары. Пісьмы з матэр'яламі можаце прысылаць даплатныя, толькі баімся, каб ня згінулі.

Гэлі Беларусцы. Карэспандэнцыю атрымалі, друкуем, дзякуем і просім пісаць на далей.

Я. Салаўю. Матэрялы атрымалі дзякуем. „Ш. М." разыходзіцца 700 экз. Бел. Інстытут Г. і К. мае 68 гурткоў. Аб колькасьці гурткоў Т-ва Бел. Школы ня маем даных.

Дзеду Марозу. Вершы атрымалі, аднак з прычын цэнзуральных друкаваць ня можам, хіба паправім і тады надрукуем у наступным нумары. Просім пісаць на далей.

Маладому. Карэспандэнцыі Вашае не зьмяшчаем у гэтым нумары, які з прычыны летняе пары выходзе з вялікім апазьненьнем, бо баімося, прачытаўшы Ваша апошняе пісьмо, каб яна з прычыны апазьненьня ня была ўжо актуальнай і каб замест дабра, не зрабіць зла. Просім паведаміць, як там ідуць справы, аб якіх вы пісалі нам. Мы дужа цешымся з Вашае перамогі.

Атрымалі як падпіску на „Ш. М." ад: а. Сулкоўскага 4 зл. і 10 гр., П—ча 4 зл., З. Алексы, Козякевіча М. па 2 зл. Усім „Ш. М." высылаем і шчыра дзякуем.

## Просім прысылаць падпіску!

Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі" ўжо ад месяца сакавіка не атрымлівае ніякае дапамогі на выдавецтва „Шляху Моладзі", бо дапамога Беларускага Інстытуту Г. і К. у суме 50 зл. месячна, якую мы атрымлівалі, устрымана Урадам Інстытуту з прычыны недахопу грошай. Падпішчыкі „Шляху Моладзі", таксама вельмі неакуратна аплачваюць падпіску. З гэтай прычыны Рэдакцыйная Калегія знаходзіцца у цяжкім матэр'яльным палажэньні.

Дзеля гэтага шчыра просім Паважаных Падпішчыкаў прысылаць залеглую плату за час. „Шлях Моладзі". Паведамляем, што хто ня прышле залеглае падпіскі, таму высылка часопісі будзе устрымана, а разам з гэтым не атрымаюць тыя асобы і дадатку да „Шляху Моладзі" 2 каляндароў на 1931 г. (насьценнага і кішанёвага), якія паданы ўжо да друку. Прытым зварочваем ўвагу, што ня гледзячы на цяжкое матэр'яльнае палажэньне, часопісь наша будзе выходзіць і на далей, але той, хто ня прышле падпіскі (грошай) часопісі ня будзе атрымліваць.

Паважаныя Грамадзяне! Хто хоча атрымліваць часопісь „Шлях Моладзі", хто хоча каб яна разьвівалася, каму дарагая і блізкая беларуская справа, хай прысылае падпіску на „Шлях Моладзі"!

**Рэдакцыйная Калегія.**